№ 85 Ausgabe B.

# ГОМАНЬ

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі— па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 85 (177). Год II. Вільня, 23 кастрычніка 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## ТЭЛЕГРАМЫ.

### 22 кастрычніка.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго:* У Фляндрыі артылерыйская бітва між лесам Гутгольцт і каналам Комін-Ипр дайшла да барабаннаго агня і трывала увесь дзень да вечара. Сягоньня раніцай пачаліся англіцка французскіе штурмы між Драйбанк і Пэлькапэль.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Артылерыйская бітва між далінай Айет і Брэ трывала ўвесь дзень і ў начы. Сільны агонь быў такжэ пры Шмэн дэ Дам, у Шампані і на Масе.

---

Учора збіты 12 самалётаў і 1 прывязны лятучы шар.

**Усходні тэатр.**

Увесь остраў Даго ў нашых руках. Узято больш за 1.200 палонных, некольки гармат і вялікіе запасы. Гэтак за 9 дзён армія і флот занялі Эзэль, Моон і Даго—ключы да ўсходняй часьці Балтыцкаго мора.

*Македонскі фронт:* У даліне Скомба мы адабралі у французоў некольки вяршын і удзержалі іх проці сільных контратак. Ля дарогі Монастыр-Рэзна і наабапол Вардару—сільны агонь.

---

ПЕЦЯРБУРГ. П.Т.А. Апавешчае:

Спаўніцельны камітэт рады раб. і салд. выбраў б. міністра працы, Скобелева, за прэдстаўніка расейскай дэмокраціі на конфэрэнцію саюзьнікоў у Парыжы і апрацаваў для яго гэткіе дамаганьня аб міры:

1. Ачыстка нямецкім войскам Расеі. Аўтономія Літвы, Польшчы Латышскай зямлі.

2. Аўтономія турэцкай Армэніі.

3. Развязка пытаньня аб Эльзас-Лотарынгіі свабоднай падачай галасоў народам.

4. Адбудова Бэльгіі і зварот страт з інтэрнацынальнаго фундушу.

5. Адбудова Сэрбіі і Чорнагоры. Пры гэтым Сэрбія атрымае выхад да Адрыатыцкаго мора. Аўтономія Босні і Гэрцэговіны.

6. Спорные землі на Балканах атрымаюць дачэсную аўтономію — да ўсенародваго галасаваньня.

7. Румынія адбудоўваецца ў старых межах і дае Добруджы аўтономію, а жыдом—поўные правы.

8. Аўтономія італьянскіх зямель у Аўстрыі да галасаваньня.

9. Зварот Нямеччыне ўсіх калоній.

10. Адбудова Пэрсіі і Грэціі.

Далей рада жадае нэутралізації ўсіх праліvоў і каналоў Суэцкаго і Панамскаго, зрачэньня ваюючымі контрыбуції і таргóвай вайны. Мірны конгрэсс будзе складацца з дэпутатоў ад народных предстаўніцтв.

**Увага:** Рада раб. і салд. у Пецярбурзі, стаўляючы свае варункі, само сабой, меў на мэці толькі карысць Расеі, каторая не траціць нічога і дае толькі аўтономію Польшчы, Літве і Латышскім землям.

ПЕЦЯРБУРГ. У апошні чэцьвер на Невскім праспэкці адбыліся дэмонстраціі, на каторых былі прамовы проці ураду і Англіі.

РЫМ. У парляменці Капера заявіў, што разрухі ў Турыне узняліся с прычыны жаданьня шыбка дайсьці канца вайны.

ЛОНДОН. (В.Т.Б. Рэўтэр). 20.X. У часі налёту ўчора забіты 27 асоб, ранены 53.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). У Сяродземным моры ізноў затоплены 2 параходы і 3 парусьнікі ёмкасьцю разам 46.000 тонн.

---

## Поўные ведамасьці аб нямецкай ваеннай пазыцэ.

I. Поўнасць ваенных пазык.

Аб гэтым нідаўна на аднэй нарадзі статс-сэкрэтар імперскаго скарбу, гр. ф. Рэдэрн, заявіў:

Пазыкі забаспечэны формальна словам ураду і Рэйхстагу, нязломнай воляй абодвых быць справядлівымі для тых, хто памог Бацькаўшчыне ў цяжкіе часы; матэрыяльна яны забаспечэны тым, што стаіць за імі: работнай і падатковай сілай ўсяго нямецкаго народу

II. Ваенные пазыкі і пытаньне аб падатках.

1. Аб гэтым гаворыць маршалак дырэкціі імперскаго банку, д-р Гавэнштэйн:

Неразумна вар'яцкая заява, бытцым у будучым дзержава налажыць на падпісчыкоў на ваенную пазыку спэцыяльны падатак; больш праўдзіва думка налажыць, як штраф, надзвычайны і цяжкі падатак на тых, што у прыгодзі не памаглі Бацькаўшчыне і не падпісаліся на пазыку, маючы магчымасць.

2. Статс-сэкрэтар імперскаго скарбу асабліва адзначываў фінансовую карысць для падпісчыкоў, каторые, як вядома, могуць аплачываць ваенные падаткі пазыкай; 5% ваенные пазычковые квіты (а такжэ запісы ў даўгавую кнігу) прынімаюцца па номінальнай цане, $4^1/_2$% облігації скарбу 1, 2, 4 і 5 ваенных пазык прынімаюцца па 96, 50, значыць, па цане на $1^1/_2$% вышэйшай, а 6 і 7 — па 100, значыць, на 2% даражэй, чым яны каштавалі падпісчыку.

Каб падпісчыкам сёмай ваеннай пазыкі ўжо цяпер даць магчымасць карыстаць з гэтых льгот пры аплаце падаткоў, за плату прынімаюцца і тымчасовые квіты.

3. Далей статс-сэкрэтар імперскаго скарбу дадаў:

„Упраўленьне фінансамі пастараецца захаваць гэты спосаб аплаты і для другіх падаткоў пасьля вайны, каб гэтым памагчы, з аднаго боку, ліквідації пазык, з другога боку — падтрымаць іх курс“.

---

## З жыцьця у Расеі.

**Украінцы.**

Доўгі час украінцы вялі марудную работу над усьвядамленьнем, працуючы у гуртках, таварыствах „Просьвітах“. Доўгі час украінская моладзь і наагул інтэлігэнція і работнікі працавалі цішком, хаваючыся ад паліцэйскаго вока, бо інакш арэшт, высылка, Сыбір.

Але вось прышла рэволюція, і украінцы падняліся ўсе і зажадалі „сваей сілы, сваей волі“.

І не толькі на самай Украіне ад Чарнігава і да Екацерынадара і ад ракі Прута да места Балашова, Сарат. губ., але па ўсей Расеі, дзе толькі было украінскае войска, пачуўся магучы голас сыноў Украіны.

А голас гэты быў: „аўтаномія Украіны у расейскай фэдэрацыйнай рэспубліцы“. Ня толькі аўтаномія аднае Украіны, як гэта дабіваліся палякі у расейцаў аўтаноміі Польшчы, пакуль не асьмеліліся папрасіць незалежнасць, не: аўтаномія Украіны, але разам і аўтаномія ўсіх народаў—беларусоў, літвіноў, латышоў, эстонцоў, армян, грузін і інш. І гэтые вольные, аўтаномные народы робяць хаўрус гасударств — фэдэрацыйную рэспубліку. У гэтым выявілася велічыня душы і розум народу. Бо не маной, падлыгіваньнем і торгам над целам і душой другіх народаў захацелі украінцы дастаць сабе волю. З другога боку, што значыць аўтаномія аднаго народу, калі другіе народы астануцца ў няволі, калі астанецца той самы цэнтралізм, што гэтулькі ўжо разоў таптаў волю народаў? Ці ня зробіў бы гэты цэнтралізм калі-небудзь з новай аўтаноміей таго, што зробіў з даўнай украінскай аўтаноміей, каторай сьведкай астаўся толькі дакумэнт Перэяслаўскай умовы?

Сэрцам усіх жаданьнёў украінскіх сталася Украінская Цэнтральная Рада, ў каторую ўвайшлі прэдстаўнікі ад рожных груп украінскаго народу. Спачатку старшыной Цэнтральнай Рады быў праф Грушэўскі, а пасьля украінск с.-д. Вінніченко, вялікі украінск пісьменнік, каторага творы перэ

